# РЭЖУЦЬ, БЫ САЛА

(Працяг са стар. 1)

чыне па бацьку прыпадае. Грошы патрэбны. Задумаў тэлевізар купіць ды матацыкл лепшы прыдаўся б. Прадам яе. За адным пісямком плыло другое, трэцяе... штораз больш 'рашучае, зняважлівае, пагардлівае. Чакаць больш не буду, моў, у суд падам, у мяне — знаёмствы, справу лёгка выйграю.

Раптам другі брат або сястра прыпаміналі аб сваіх правах на тую ж бацькаўшчыну і (ці ж мы горшыя?!) з няменшай сілай хапаліся за свой кавалак. Моў, з торбай жабраваць пойдзем, а свайго не пусцім, не даруем.

Магло быць і зусім інакш. Справа вельмі складаная. Усялякіх магчымасцей, розных варыянтаў можа быць тут сотні. Аднак канчатковы вынік заўсёды адзін і той жа: гаспадарка распадалася на кавалачкі велічынёю ад 50 сотых да 2 гектараў. Колькасць такіх, з божай ласкі, «гаспадарак» узрасла на Беласточчыне за дзесяць год на 3200.

Часам здаралася яшчэ горш. Нядрэнная гаспадарка распадалася ўжо не на кавалачкі, а на дробненькі мачок, на крышынкі, плошча якіх пачыналася ад дзесяці сотых і канчалася на паўгектарах.

Тут, у тым месцы, чую разумную заўвагу сапраўдных хлебаробаў:

— Гэта ж ужо толькі скромны агародчык, а не гаспадарка!

Святыя словы! Я поўнасцю згодны з такой думкай. Толькі бяда вось у тым, што такіх агародчыкаў на працягу дзесяцігоддзя прыбавілася ў Беластоцкім ваяводстве больш як на 4 тысячы.

Адкуль узяліся гэтыя тысячы новых гаспадарак — карлікаў, тысячы новых агародчыкаў? Ад правядзення аграрнай рэформы зямлі ж у сялян не прыбывала, ды межы ваяводства не пашыраліся!

Адказ ёсць адзін: узніклі яны ў выніку пастаяннага распаду сярэдніх гаспадарак. Вось на працягу гэтага ж дзесяцігоддзя знікла з рэестраў сельскагаспадарчых аддзелаў Беластоцкага ваяводства каля 4 тысяч сярэдніх гаспадарак — велічынёю да дзесяці гектараў. Ненасытныя рукі паразрывалі іх амаль на сем з палавінай тысяч кавалачкаў, парэзалі на агародчыкі, на гаспадаркі - карлікі, узброіліся адпаведнымі ўстарэлымі законамі аб спадчыне ды сядзяць, задаволеныя сваім багаццем. Яны ж гаспадары! Маюць уласную зямлю, уласныя гаспадаркі!

Толькі што варты такія іх «гаспадаркі», што яны даюць?

Селяніну, які сродкі да жыцця бярэ выключна з таго, што дае яму зямля, не пражыць нават аднаму на такой «гаспадарцы», а аб утрыманні сям'і шкада проста гаварыць.

Як правіла, уласнікам карлікавай гаспадаркі з'яўляецца не сапраўдны хлебароб, а чалавек, які адной нагой сярод рабочых, а другой — сярод сялян. Такі чалавек мае столькі супольнага з сельскай гаспадаркай, колькі сабака з катом. У яго найчасцей няма ні каня, ні плуга, ні бараны ні жывёліны. Часам толькі парсюкоў пару, каза ці кароўка. Прадукуюць толькі тое, каб хапіла на ўжытак сваёй сям'і. Як найменш капіталаўкладанняў, як найменш працы! Часу няма. Штодзень жа трэба адпрацаваць гэтыя восем гадзін на прадпрыемстве ці ў нейкай канторы. Усялякія машыны і прылады заступаюць у такой «гаспадарцы» голыя рукі ды рыдлёўка. Навошта больш? Шкада грошай!

Такое гаспадараванне непасрэдна адмоўна ўплывае на ўсебаковы прагрэс у сельскай гаспадарцы. Сучасная тэхніка, сучасныя метады гаспадаравання патрабуюць шырокіх пратораў. Без механізацыі апрацоўкі зямлі немагчыма зараз хуткае развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, немагчымы рост ураджаяў і памяншэнне ўласных коштаў прадукцыі.

Таму раздрабненне гаспадарак нельга пагадзіць з увядзеннем шырокай механізацыі, таму з'ява гэтая чорным, як найбольш адмоўным пятном кладзецца на будучыню нашай вёскі, пераўтвараецца ў праблему сур'ёзнага грамадскага значэння. Неабходна як найхутчэй падрэзаць ёй корні, раз назаўсёды вырваць са спраў, якія ўсё яшчэ тармозяць прагрэс у сельскай гаспадарцы.

Нездарма партыя і ўрад прысвячаюць столькі ўвагі гэтай праблеме. Аб раздрабненні гаспадарак шырока гаварылася на апошнім пленуме ЦК ПАРП, а Сеймовая камісія сельскай гаспадаркі і спажывецкага промыслу рыхтуе зараз адпаведную пастанову, якая, між іншым, прадбачвае адміністрацыйнае абмежаванне раздрабнення гаспадарак акрэсленай плошчы. Гэты мінімум плошчы гаспадаркі, якую ўжо нельга будзе дзяліць, дакладна пазней акрэсліць Рада Міністраў у сваім распараджэнні.

Сеймовая пастанова вырашыць таксама вельмі зараз заблытаныя справы адносна права на спадчыну. Справа ў тым, каб зямля прыпадала выключна тым сялянам, хто на ёй застаецца, хто яе непасрэдна апрацоўвае, хто мае адпаведную падрыхтоўку для загаспадаравання. Людзі, якія або зусім не звязаны з сельскай гаспадаркай, або сядзяць у ёй толькі адной нагой, будуць зусім пазбаўлены права на спадчыну.

Пастанова ўжо ў апошняй стадыі падрыхтоўкі. Усе прыкметы паказваюць, што яе нараджэння чакаць доўга не будзем.

**В. РУДЧЫК**

# ДАРОГІ

(Працяг са стар. 1)

Успомнім хаця б аб пабудове двух важнейшых дарог на Гайнаўшчыне. Шаша Гайнаўка — Нараў, што выдатна скараціла спалучэнне з Беластокам і паўночнай часткай павета, і дарогу Гайнаўка — Кляшчэлі, якая спалучыла павет з яго паўднёва-ўсходняй акраінай. Абедзве дарогі пабудаваныя зусім нанава, маюць па 18 км. Зараз мала хто з падарожных, праязджаючых з Беластока праз Нараў да Гайнаўкі, успомніць аб тым, што скарацілі трасу на нейкіх 30 км. А выбіраючыся з Гайнаўкі да Кляшчэль, каму прыйдзе ў галаву, што яшчэ некалькі год назад ён мог туды даехаць праз... Бельск! Пры пабудове абедзвюх дарог прымалі ўдзел не толькі сяляне з вёсак, дзе дарогі праходзілі. Хоць ім, зразумела, гэта давала найбольшую карысць (пошта, ПКС і інш.). Дарогі будавалі працоўныя Гайнаўкі, вучні, моладзь. Штодня, пасля заканчэння працы ва ўстановах, на заводзе, у вызначаным месцы горада аўтамашыны 'забіралі па дваццаць - трыццаць асоб з лапатамі ў руках і рэгулярна развозілі іх па трасе. Ды не толькі сярод будзённых дзён — нават у нядзелі!

Раз людзі смяяліся, жартавалі (супольны выезд за горад — нейкае абнаўленне ў штодзённым жыцці!), раз злосна клялі, стоячы ў мяккай гліне або па калені ў вадзе. Дарогі ж павольна пашыраліся, даўжэлі і рабіліся падобнымі да сапраўдных дарог! Зараз хто быў (і хто не быў!) пры іх пабудове, ганарыцца фактам, што павет уласнымі сіламі, грамадскім чынам, не за дзяржаўныя грошы, стварыў асноўную сетку дарог на сваёй тэрыторыі! Пабудавана гэтых дарог за дзесяць год нямала, разам каля 165 км! У тым ліку каля 35 км брукаваных і 110 км жвіраваных дарог. Вартасць гэтай грамадскай працы ў грошах выцаніла нядаўна павятовая рада ў Гайнаўцы на звыш 60 мільёнаў злотых!

Не ўсё, зразумела, можна выцаніць залатоўкамі, аднак сума гэтая дае нейкае нагляднае ўяўленне аб дзесяці гадах грамадскай працы пры пабудове дарог. Тым больш, што дарогі — не ўсё. Поўны вобраз атрымаецца, калі ўспомнім яшчэ аб 13 новапабудаваных мастах, 31 пропуску на дарогах, аб звыш 14 тысячах дрэў, высаджаных паабапал дарог! У лютым гэтага года сесія павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы прыняла пастанову аб уключэнні павета ў ваяводскае спаборніцтва пры пабудове дарог на 1963 год. Сесія таксама накіравала заклік да грамадскіх рад павета аб спаборніцтве паміж паасобнымі радамі. Апрацаваны

(Працяг на стар. 7)

# НЕ СПЫНЯЦЦА НА ДАСЯГНЕННЯХ

(Працяг са стар. 2)

Аб ролі школы ў асяроддзі гаварыла таксама і дырэктар гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай навучання Анастасія Тропак. Між іншым, яна звярнула ўвагу на неабходнасць дапамогі з боку актывістаў БГКТ пры наборы новых вучняў да ліцэя.

Са свайго боку дадаем, што гэта неадкладнае заданне нашых гурткоў. Нельга дапусціць, каб ліцэй з вельмі добрымі ўмовамі для навучання і з высокакваліфікаванымі педагагічнымі кадрамі меў з-за якіхсьці перажыткаў у свядомасці пэўнай часткі насельніцтва цяжкасці ў наборы вучняў.

Аб гэтым гаварыў і старшыня бацькоўскага камітэта пры ліцэі тав. Суліма.

Як прыцягнуць старэйшае насельніцтва да працы ў БГКТ. На гэтае пытанне спрабаваў адказаць у сваім выступленні Васіль Дзун, старшыня аддзела. Паводле яго, трэба заняцца гаспадарчымі справамі, арганізацыяй конкурсаў з гэтай галіны і г.д. Тав. Дзун паставіў таксама не менш важную справу, як неабходнасць узняцця на вышэйшы ўзровень асабістай культуры селяніна і культуры яго гаспадаркі.

На істотную праблему ў працы гуртка звярнуў увагу загадчык школы з Ляшукоў Аляксандр Харкевіч (які, дарэчы, спраўна кіраваў канферэнцыяй), менавіта на мэту дзейнасці. «Праца тады добра развіваецца, калі ёсць мэта, — сказаў ён. — Гурток павінен яе заўсёды ставіць перад сабой».

Гэтую думку найлепш праілюстравала выступленне Янкі Грыгарука з Дубіч Асочных. Ён гаварыў, што доўга іх гурток не ведаў, за што ўзяцца і бяздзейнічаў. Хапіла ў студзені г.г. паставіць перад ім канкрэтную задачу — арганізаванне мастацкага калектыва, як праца раптоўна ажывілася. За гэтыя некалькі месяцаў гурток даў ужо 8 выступленняў. А ў планах гуртка на гэты год яшчэ 10 новых выступленняў.

Гэта былі б у значным скарачэнні важнейшыя справы, якія стаялі на гайнаўскай канферэнцыі. Дадамо яшчэ да гэтага, што як дакладчык, так і дыскутанты выдзелілі і высока ацанілі працу старшыні аддзела Васіля Дзуна і члена праўлення Кастуся Майсені, і што канферэнцыю наведала дэлегацыя вучняў беларускага ліцэя, якая з жывымі кветкамі злажыла пажаданні поспехаў у працы канферэнцыі і абяцанне пасля заканчэння школы ўключыцца ў актыўную дзейнасць БГКТ.

Канферэнцыя выбрала 15-асабовае праўленне, 3-асабовую рэвізійную камісію, 35 дэлегатаў на З'езд і прыняла пастановы.

Найважнейшыя з пастаноў:

Пашырыць арганізацыю да 60 гурткоў і 1500 членаў, павялічыць падпісчыкаў на «Ніву» да 2500. Развіваць на вёсцы культурна - асветную працу, асабліва ў галіне сельскагаспадарчай асветы. Паклікаць лектараў. Весці радыёгуткі. Класці намаганні на пабудову ў Гайнаўцы музея імя Кастуся Каліноўскага.

У мастацкай частцы вельмі ўдала выступіў мастацкі гурток з Дубіч Царкоўных.

(рл)

# ФА-

Гасціна ў Жэні закончылася апоўначы. Дзядзька Пеця захроп на месцы, на канапе каля стала. Тату Жэня з мамаю завялі пад рукі ў другі пакой і паклалі там на ложку не раздзяваючы. Галі надта хацелася спаць і мама сказала:

— Заначуеш у цёткі Жэні, а я пайду дахаты, каб рана жывіну дагледзець...

У халоднай пасцелі ўмомант адляцела ўся дрымота. Галя скруцілася ў клубок і схавалася пад коўдраю з галавою. Хукала, грэлася.

За акном, на дрэве, закрычалі перапуджаныя вароны. Здавалася, што тут, пад коўдраю, цяпер вельмі добра і цёпла. Пасля настала цішыня, але Галя не магла заснуць.

Раптам зарыпелі дзверы. Галя выглянула праз шчылінку і ўбачыла цётку Жэню. На неба выплыў месяц, і Галя выразна заўважыла яе твар і бляск вачэй — драпежны, чужы. Цётчыны вочы глядзелі проста на Галю. Паціху, крадком ішла ў пакой, дзе спаў тата. Чуваць было, як яна разбудзіла яго і яны шапталіся між сабою. Галя задыхалася пад коўдраю, але баялася высунуць наверх галаву. Потым выдавалася ёй, што тата хоча пацалаваць цётку. Страшна!

Цётка ўсё не выходзіла.

Галя заснула над ранам. Снілася, як Грышка з класа VII«б» частуе яе, Галю, цукеркамі, а цётка Жэня стаіць у брамцы і кажа: «Бяры цукеркі, дурная, бяры, калі дае». Але Грышка не аддае ўсіх цукерак, а нахіляецца над ёю і цалуе ў шчаку... Галя адпіхнула яго, бяжыць уздоўж вуліцы і плача...

Са страху і сораму прачнулася. Пакой купаўся ў вясеннім сонцы. З кухні даносіўся пах смажаніны і прапіты голас дзядзькі Пеці, які гаворыць да таты:

— Клін выбіваецца клінам... Ну, давай яшчэ вып'ем па сто грам!

Галі чамусьці прыйшла ў галаву дзіўная думка, каб цішком адзецца і ўцячы праз акно! Але, на шчацэ, бы вугалёк, пёк Грышкін пацалунак, аж Галя недаверліва памацала пальцамі. І сапраўды, шчака гарачая — галава гарачая. Прайшоўшая ноч выдалася адным вялікім дзіўным сном.

* * *

У вокнах гаслі агні, людзі клаліся спаць. Вёска заціхла. Алёшка меў начную варту. Цясней падперазаў дажджавы плашч і прысеў на лаўцы пад плотам, ля пахучага куста бэзу. Абапёрся аб штакеціну, глядзеў на зорнае неба.

Па нагах пацягнула холадам, і Алёшка ўстаў. Вялікая Мядзведзіца пахілілася ўжо па-над Пецькаву ліпу, значыць, незадоўга будзе днець. Алёшка пабронтаў уніз вуліцы, да хаты.

Але ён не ўвайшоў у хату. Здалося яму, што каля гумна паказаліся нейкія цені, аж суседаў Бобік разбрахаўся. «Што за халера!?» — падумаў і адчуў, як падымаюцца валасы пад шапкаю. Сціснуў сукача ў руках і рушыў да гумна. Учора там, на таку, ладзіў гумавіка і, няйначай, хтосьці наважыўся красьці апоны!

Алёшка назнарок цвёрда ступаў па зямлі, каб было чутна яго хадзьбу. Баяўся сустракацца вока ў вока са зладзеямі. І чым бліжэй падыходзіў да гумна, тым рабілася яму страшней, бо ніхто не ўцякаў адтуль у поле. Густы месячны цень слаўся па прыгумені, і Алёшка не пайшоў далей. Прыпыніўся ля жэрдак агарожы і выкрыкнуў сіплым ад хвалявання голасам.

— Хто там?

— Ой! — віснула жанчына, і яе голас быў настолькі знаёмы, што Алёшка аж здзівіўся. Пад паветкаю ўзняўся ломат, потым згорбленая постаць шмыгнула ў вішнёвы зараснік. «Жэнька!» — ледзь не ахнуў Алёшка. Тым часам падышоў да яго мужчына, у якім пазнаў Сцяпана. Той зашпіляў пінжак.

— Ты, — азваўся Сцяпан. — Калі хоць піснеш каму слоўца пра мяне — наб'ю морду.

Алёшка на ўсякі выпадак мацней сціснуў пальцамі сукасты кій. На месца страху нахлынуў дзікі

# САМАДЗЕЙНАСЦЬ

(Працяг са стар. 1)

ролі гэтых мерапрыемстваў бывае рознае і па-рознаму тлумачыцца. Гэта мы назіралі пры арганізацыі апошняга агляду беларускіх драматычных калектываў у рамках агульнапольскага фестывалю тэатральных калектываў. Многія актывісты мастацкай самадзейнасці лічаць, што асноўным у гэтай карыснай і цікавай працы з'яўляюцца агляды. У сапраўднасці самым важным з'яўляецца праца калектыва, лік яго выступленняў, інакш гаворачы, яго грамадская і культурная праца.

Пераважна ад гэтага залежыць і ўзровень калектыва, таму што калектыў, які ўлажыў многа працы, выступленнямі ўдасканаліўся, дашліфаваўся, заканамерна будзе лепшы ад калектыва, які рыхтаваўся толькі да агляду. Агляды з'яўляюцца не чым іншым, як паказам узроўню, дасягненняў і вынікам карпатлівай, мазольнай працы, арганізуюцца для таго, каб падзяліцца вопытам, выкарыстаць дасягненні другіх, для таго, каб прыдаць значэнне такім формам культурнай працы.

Зацікаўленне ўстаноў і арганізацый працай гурткоў мае вялікае мабілізуючае значэнне.

Сістэма ўзнагарод мае сімвалічнае значэнне. Як знак прызнання. Таксама сімвалічнае значэнне мае падзел узнагарод. Узнагароды не могуць лічыцца заробкам калектыва, таму што вартасць укладзенай працы значна ўзрастае, дзякуючы яе грамадскаму, бескарыслівамy характару. Гонарам кожнага калектыва павінна быць спаборніцтва перад аглядам. Бо сам агляд для камісіі з'яўляецца толькі ацэнай дасяг-

(Працяг на стар. 7)

## БЕЛАРУСІЯНА

### ЛІТВА І БЕЛАРУСЬ У ПАЛІТЫЦЫ БЕЛЬВЕДЭРСКАГА ЛАГЕРА

**Дзяржаўнае навуковае выдавецтва ў Варшаве выдала кніжку Юзэфа Леваноўскага п.з. «Федэралізм». Гэта вельмі цікавая выдавецкая пазіцыя, асабліва для людзей, якія цікавяцца нацыянальным пытаннем у міжваеннай Польшчы. Прысвечана я фармаванню канцэпцыі усходняй палітыкі бельведэрскага лагера ў перыяд ад лістапада 1918 г. да красавіка 1920 г. Большасць матэрыялу ў кніжцы прысвечана беларускаму пытанню. Гэта першае пасля вайны выданне гэтага роду.**

**Кніжка выйшла тыражом 1800 экз, і каштуе 24 зл.**

# У РУКАХ КАТАЎ

Малахвея мабілізавалі ў польскую армію ў канцы жніўня 1939 г. У вераснёўскай кампаніі прымаў ён удзел у баях над Пiліцай, а затым пад Сахачэвам. Пасля разгрому свайго атрада з трыма сябрамі аказаўся на занятай немцамі тэрыторыі на заходнім баку Віслы. Кіруючыся больш салдацкім інстынктам, чым акрэсленым планам, застрэлілі некалькіх немцаў, урэшце аднак трапілі ў нямецкі палон. Пасля некалькіх дзён намцы загналі іх у Кельцы, адкуль польскія палонныя былі адвезены. Перавоз адбываўся характэрнымі для гітлераўцаў метадамі: везлі іх



Для малога Здзіся, Юльянавага сына, усё гэта будзе даўняй легендай.

шэсць сутак у замкнутых вагонах, не далі ні есці, ні піць, не выпусцілі нікога па фізіялагічных патрэбах.

Дзесьці ў 1941 годзе Малахвей, пасля цяжкай працы ў нямецкіх лагерах і ў прускіх юнкераў, адчуў пэўнае аблягчэнне. Быў ён пераведзены да цывільных, адвезены ў Гамбург і назначаны працаваць на фабрыцы.

У Гамбургу быў лагер савецкіх ваеннапалонных. Аднаго дня Малахвей са сваім сябрам падкраліся да агарожы лагера. Палонныя вельмі прасілі хлеба. «Былі яны, — расказвае Малахвей, — страшэнна худыя». Юльян і сябра некалькі разоў прыносілі ім хлеб, хутка аднак былі схоплены і пасаджаны ў турму.

І тут пачалося...

*

Малахвей гаворыць нервова, хаатычна. Відаць, што хоча сказаць многа, вельмі многа, хоча расказаць усё — і менавіта так, як яно было. У апавяданні Малахвея сучаснасць перамешваецца з мінулым, ён ведае лепш за іншых, што такое вайна, што такое фашызм, ён не можа зразумець, што ёсць яшчэ людзі, якія імкнуцца да адраджэння нямецкага мілітарызму і рэваншызму. Ён бачыў запланаваную, павольную смерць ад голаду і фізічнага вычарпання тысяч людзей, ён 4 гады прабыў у гітлераўскіх лагерах смерці, чакаючы сваёй чаргі.

Не ведаю, калі закрыўся мой блакнот, калі схаваў я ў кішэню аловак. Сяджу насупраць Малахвея і слухаю яго проста так, як чалавек чалавека, калі гэты чалавек гаворыць шчырую, набалелую, з глыбін душы плывучую праўду.

— Кожны дзень у лагеры з розных прычын гінулі дзесяткі людзей. Кожны дзень трэба было думаць, што можа сёння твая чарга. І так 4 гады. Нам давалі ў суткі 80 грамаў хлеба і 3/4 літра «супу», якім была адна вараная гнілая бручка без солі. Да аднаго прычэпа ад трактара запрагалі на шлеях па 10 чалавек і загадвалі вазіць рознае смецце, пясок, нейкія бочкі за 10 кіламетраў. Ззаду ішлі эсэсаўцы, білі нас гумамі, крычалі: «Шнэль, шнэль трагэн». Зімою, калі немец заўважваў, што нехта аглянуўся ў час працы, клікаў да сябе, садзіў на поручні маста над канавай і біў па зубах так моцна, што палонны не ўтрымліваўся і падаў у канаву. Калі ўдавалася выкарабкацца з вады, сушыцца не было дзе, бо ў лагеры не было печаў (апрача крэматорыяў.) Да спання былі толькі дошкі пад бок і адзін дзіравы коц. Будзілі нас у 3 гадзіны раніцы. Да гадзіны 7 трэба было стаяць пад дажджом, які асабліва зімою часта ідзе ў Гамбургу. Хто спрабаваў схавацца ў лагеры, развітваўся з жыццём. З працы не вярталася часта па 50 чалавек. Былі яны замардаваны або патоплены ў Эльбе ў час разгрузкі баржаў. У Барце, які быў апошнім маім лагерам, баракі былі трохпавярховыя. На паверхах жыло 800 чалавек, а былі толькі адны сходы. Калі адбываліся зборы (пры дапамозе палак) людзі часта спатыкаліся, падалі, праз іх ляцелі іншыя. Пасля кожнага такога збора было 20, а часам і больш трупаў. Нават сабак на нас дрэсіравалі. Бралі з нас некалькі чалавек, загадвалі бегчы і цкавалі сабакамі. Эсэсаўцы смяяліся і цешыліся, што сабакі добра грызуць. Калі каля лагера трапіцца нейкі кот ці сабака, для тых, каму ўдалося зладзіць яго, было гэта вялікім святам. З'ядалі на месцы. Нават у трупаў вырэзвалі кавалкі мяса і елі сырое.

Зразумела, што запісаў я тут толькі невялікую частку таго, што расказваў і што мог бы расказаць Малахвей. А расказаць немагчыма ўсяго таго, што перажыў чалавек у нямецкіх канцлагерах.

У першы дзень мая 1945 года немцы, уцякаючы пад напорам сіл Чырвонай Арміі, зніклі з лагера, не паспеўшы замардаваць сваіх ахвяр. А на наступны дзень, 2 мая, лагер вітаў савецкіх байцоў. Неслі яны вызваленне і свабоду мільёнам людзей. Ніхто, мабыць, не адчуваў такой радасці вызвалення, як тыя, што гадамі глядзелі ў вочы смерці з рук бязлітасных катаў. Сярод іх быў і Малахвей з Крушынян, што на Сакольшчыне.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК



Юльян Малахвей ля сваёй хаты.

# СУСТРЭЧА З МЕЛЬХІЁРАМ ВАНЬКОВІЧАМ

(Працяг са стар. 3)

дзяржаўных установах.

Ванькові задумваецца над чымсьці. Праз хвіліну зноў вяртаецца да сваіх успамінаў.

— Што датычыць беларускай літаратуры, дык зрабілі на мяне найбольшае ўражанне такія пісьменнікі, як Бурачок, М. Танк, Я Колас, Машара. Гэтага апошняга я нават перакладаў на польскую мову.

Ванькові устае і паказвае мне кнігу «Эстафета», дзе ёсць здымак Машары і яго верш.

— Зрэшты, з Машарам, — працягвае размову Ванькові, — я сустракаўся часта. Быў у яго хаце. Памятаю, што частавалі нас там яешняй з некалькіх дзесяткаў яек. Наеліся так, што ледзь давалакліся да Дзвіны і на некалькі гадзін залеглі ў траве. Перад вайной зрабіў я пэўныя захады з мэтай арганізацыі аўтарскай сустрэчы з М. Танкам у Варшаве. Вечар гэты адбыўся вельмі ўдана. Сустракаўся таксама з палітычнымі беларускімі дзеячамі Тарашкевічам і Луцкевічам.

*

Ванькові гаворыць безупынна. Відаць, мае дасканалую памяць: свабодна кружыць у адлеглых часах, кідае думкі, рэфлексіі, успаміны, якія ўкладваюцца ў каляровую мазаіку.

Калі я ўжо збіраўся выходзіць, жонка Ванькові звярнулася да мужа:

— Мэля, а ці расказаў ты госцю аб тым, як у 1954 годзе ў Нью-Йорку ў час аўтарскай сустрэчы ты апрануў актрысу ў беларускую вопратку і загадаў ёй спяваць беларускія песні?

— Забыў, зусім забыў! Так! Нават некаторыя абураліся: «Што ты нас маскоўскімі мелодыямі частуеш!» Ды і з актрысай было нялёгка. Беларуская мова давалася ёй не лягчэй, чым кітайская.

— Я знайду гэтыя песні, — абяцае пані Ванькові, — і прышлю вам іх тэксты.

Дзякую і развітваюся, поўны ўражанняў. Цяжка ўлажыць у нейкую лагічную сістэму ўсё пачутае ў доме Ванькові. Ды ці гэта патрэбна? Усхваляванасць не мусіць быць лагічнай. Дастаткова таго, што з'яўляецца шчырай. Так ці інакш, размова з пісьменнікам, для якога жыццё — гэта літаратура, а літаратура — жыццё, належыць да эпізода не толькі прыемнага, але і карыснага.

гнеў, і ён не мог змаўчаць, пачуўшы такую Сцяпанаву пагрозу.

— Як ты, Сцяпан, можаш спакойна глядзець у вочы роднай жонцы і сыну, і Пецьку, суседу свайму!? Га? — запырскаў слінаю Алёшка. — Табе ж саракоўка на карку... што, мо' кінеш гаспадарку ды сям'ю, за Жэнькаю павалачэшся?... ...Яна мілейшая для цябе...

Сцяпан соп і таропіўся кудысьці ўбок, а Алёшка

# ХОЎКА

ўсё спавядаў яго і штораз больш гарачыўся. А Бобік усё брахаў і бразгаў ланцугом.

Сцяпан абмяк.

— Не кажы нікому, — пачаў шаптаць. — Я і сам не знаю — не ведаю, што гэта мне такое дурное прыйшло ў галаву...

На двары світала і неба зусім пабялела. Сцяпан яшчэ ніжэй апусціў галаву. Выглядаў, бы той вучань перад настаўнікам, які ставіць двойку за брыдка ведзены сшытак.

Алёшка ні перад кім не выгаварыўся — нават у сваёй хаце. Калі ішоў падаць каню аўса, па-над Сасновіцкім лесам мігцела апошняя зорка. «Ці і там таксама гэтак выпрацоўваюць людзі? — думаў. — Эт, усюды людзі аднолькавыя, на якой бы планеце не жылі», — дакончыў свае думкі і ўзяўся рубаць хворaст, бо жонка збіралася гатаваць снеданне.

* * *

Усе гаварылі, што Валодзька ходзіць да Жэні. Яго жонка, Верка, ужо насіла да астраўской рабой Ганулі мужаву кашулю, каб адчараваць яе, але бабуліна замова не памагае. Валодзька штораз больш адкрыта спатыкаецца з Жэнькаю, калі прыходзіць ранкам дахаты, не можна аказацца. Без дай рацыі ўзнімае сварку, і на тым тыдні нават збіў Верку кулакамі, паваліўшы на падлогу, а дзяцей паразганяў пазавугеллю.

У Валодзькавай хаце перасталі вадзіцца грошы, і прыбытак у гаспадарцы прападае. Усенька нясе Жэньцы — пуд жыта, навюткі паркаль прапаў з шафы, парася таксама і электрычны прас.

Пецькі няма ў вёсцы. Збольшага абрабіўшы сваё невялікае поле, паехаў ён на Прусы, каб да лета прызарабіць на меліярацыі. Пісем не піша, бо не ўмее, і таму яго адрас невядомы...

Што праўда, у белы дзень Валодзька ўсё ж не асмельваецца дыбіцца каля Жэнькі. Відаць, тліцца ў ім іскарка чалавечага сораму, але няхай настане змрок, адразу зойдзе да яе. Хаця на гадзінку. Аднаго разу Валодзька на Верчыных вачах пашоў туды. На злосць! Верка залямантавала на ўсю вуліцу і пабегла ўслед за ім. У брамцы перапыніла яе Жэня.

— Ты чаго!? — прыкрыкнула на яе.

— Пашто зманьваеш яго!!? — завішчала не сваім голасам Верка і ўхапілася за Жэньчыну кучму.

Назбягалася адусюль народу. Мужчыны разбаранілі іх. Адны саромілі, другія смяяліся — і ўрэшце зборышча памалу разышлося.

З тых пор Верка як бы прыціхла ды пагадзілася з лёсам. Пабрыдчэла, апусцілася. Нікуды не выходзіць, не паказваецца.

Знаёмыя дзівуюцца, што гэта сталася з Валодзькам? Такі быў спакойны і працавіты чалавек, і не малады ўжо векам, дзеці ў школе вучацца, і тут... на табе! А, нібы, у Жэні гэтай Валодзька не першы...

Цяпер Жэнька пачынае таргаваць самагонкаю, бутэлькі хавае ў агародзе. Па Вялікадні Сцяпан араў ёй у садзіку, дык тры паўлітроўкі з зямлі выараў... Ах - ах, які круцель з нашай Жэнькі зрабіўся, чыстая фахоўка на ўсе рукі...

Слова «фахоўка» прыліпла да Жэні, мабыць, і таму, што яна ніколі і нічым не пераймаецца; заўсёды вясёлая і свежая — заўсёды бяздумная, як цыганка. І найпрыгажэйшая за ўсіх сваіх равесніц!

— Фахоўка, — кажуць і хіхікаюць суседкі і суседзі, жонкі і мужы, дзяўчаты і хлопцы, дзяўчынкі і хлопчыкі...

* * *

А Галі пры гэтым слове чагосьці страшна!

САКРАТ ЯНОВІЧ

## ДЗЕННІК КАСМАНАЎТА К. 6)

# НАШ МУЗЕЙ

16 ЛЮТАГА 1963 г. Нядаўна вярнуўся з паездкі ў Інданезію Андрыян. Мы сустрэлі яго і доўга прасядзелі ў яго халасцяцкай кватэры. «Маўчун» гэтым разам быў вельмі гаварлівы і расказаў шмат цікавага аб краіне трох тысяч высп.

Раніцай мы ўставілі прывезеныя Андрыянам падарункі інданезійцаў у нашым музеі. Цікавы і своеасаблівы гэта музей.

На сценах, на сталах — карціны і скульптуры, макеты і альбомы, шкатулкі і кнігі, медалі і сувеніры, вырабы з шоўку і мармуру, золата і серабра, слановай косці і дрэва, гіпсу і скуры. Усё гэта — падарункі першым лётчыкам - касманаўтам, прысланыя з розных куткоў Зямлі.

«Касмічныя падарункі»... Іх шмат, яны ўсё прыходзяць. Піянеры і школьнікі, студэнты і рабочыя, людзі розных перакананняў і поглядаў шлюць разам з падарункам частку свайго сэрца. Паэты шлюць вершы, празаікі — зборнікі апавяданняў і аповесцей, кампазітары — ноты песень. Афрыканскія студэнты з Кеніі, Каранджа Бонафача і Мбуру Мінна, прыслалі значок з малюнкам правадыра свайго народа.

Фігура ліцейшчыка ад рабочых Англіі, розныя шкатулкі з Балгарыі, кнігі ад французскага выдавецтва «Аез Эдэцёр Франс Рэюні» і барэльефы з Венгрыі, прыгожае шоўкавае пано ад індыйскіх мастакоў, макеты карабля-спутніка «Усход» ад нямецкіх школьнікаў. А колькі іншых падарункаў з Італіі і Даніі, Румыніі і Малі, В'етнама і Інданезіі, Аўстрыі і Канады.

Рабочыя чэхаславацкага аўтамабільнага завода прыслалі мадэль машыны «Татра» і цёплае пісьмо з пажаданнем новых поспехаў у працы, вучобе і апанаванні космасу. Французскія самалётабудаўнікі прыслалі макет «Каравелы», а польскія лётчыкі — бронзавую фігуру Ікара.

Школьнік з Італіі прыслаў фатаграфію некалькіх экземпляраў «Уніта», «Ла Стампа» і іншых, прысвечаных палётам нашых хлопцаў. А невядомы з далёкай Малі падарыў нарысаваны на пальмавым лісце партрэт Касманаўта — Два.

У нас захоўваюцца залатыя медалі французскіх, італьянскіх, аўстрыйскіх гарадоў, якія былі спецыяльна адліты ў гонар першага і другога савецкіх касманаўтаў. ордэны шматлікіх дзяржаў, дасланыя іх кавалерамі тым, хто ўпершыню ў гісторыі адчыніў вароты Сусвету. Ёсць і ключы ад сталіц, якія ўручылі Юрыю і Герману. У нашым музеі «касмічных падаркаў» сабрана тое, чым людзі Зямлі хацелі выказаць першым савецкім героям космасу сваё захапленне іх подзвігамі.

(«Авіяцыя і касманаўтыка») **Працяг будзе.**

ВЕСТКІ з БССР

## ЖЫЦЦЁ, ПРЫСВЕЧАНАЕ СПОРТУ



Мікола Дранько прысвяціў спорту ўсё сваё жыццё. Цяпер ён працуе трэнерам у дзіцячай спартыўнай школе горада Брэста. Дранько выхаваў шмат выдатных спартсменаў - веласіпедыстаў.

# НЕБЯСПЕЧНЫЯ СПАДАРОЖНІКІ ВЯСНЫ

Нярэдка з надыходам вясны пачашчаюцца выпадкі розных кішэчных захворванняў. Найбольш небяспечнае з іх — брушны тыф. Узбуджальнікі яго пранікаюць у арганізм з пітной вады, а таксама з харчовымі прадуктамі. Акрамя таго, што чалавек надоўга выбывае са строю, захворванне небяспечна цяжкімі ўскладненнямі, такімі, як запаленне нырак, сярэдняга вуха, лёгкіх і самае сур'ёзнае — кішэчнае кровацячэнне.

Пры своечасовым лячэнні сучасная медыцына з гэтым захворваннем спраўляецца. Аднак задача заключаецца ў тым, каб не дапускаць яго.

Трэба вельмі старанна сачыць за санітарным станам водаразборных калонак, калодзежаў, асабліва ў сельскай мясцовасці. Лепш за ўсё піць гатаваную ваду. Гародніну, асабліва раннюю, перад ужываннем неабходна старанна мыць.

Разносяць заразу таксама людзі, якія перахварэлі брушным тыфам і ў арганізме якіх засталіся мікробы. Таму для прафілактыкі захворвання вялікае значэнне мае асабістая гігіена чалавека.

Трэба таксама памятаць, што актыўнымі пераносчыкамі брушнога тыфу з'яўляюцца мухі. Сур'ёзную ўвагу таму трэба звярнуць на ачыстку двароў, смеццязборнікаў, дзе выводзяцца мухі. Чым больш чыстымі і культурнымі будуць нашы гарады і вёскі, тым менш будзе выпадкаў захворвання на брушны тыф.

## ЗАБАРОНЕНА

Вядомая французская спявачка Жульет Грэко знаходзіцца ў Іарданіі ў чорнай кнізе. Забаронена прадаваць пласцінкі з яе песнямі і фільмы, у якіх выступае. Чаму? Грэко ў час свайго турнэ па Іарданіі публічна выразіла сваю сімпатыю для народа Ізраіля. (вп)

## КІТ НА ПЛЯЖЫ



Ён любіць найбольшыя глыбіні ледавітых мораў. Тоўсты слой тлушчу не дапускае ніякіх марозаў. Але гэты, невядома па якой прычыне, забраўся на японскі пляж каля Токіо. Дзве гадзіны патраціла 200 японскіх хлапцоў, каб злавіць магутную «калоду». Цяпер кіт ужо не страшны. Можна падыйсці блізка, пагладзіць. Кіт пачуў сілу чалавека.

вл

## РУЖЖЫ СА ШКЛА

Вядомая амерыканская аружэйная фірма «Вінчэсцер» сканструявала паляўнічае ружжо, ствол якога вырабляецца са шкловалакна. Як паказалі выпрабаванні, ён у два разы больш трывалы за стальны і не іржавее.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ТУНІС АБО КАІР?

Ці збудуцца мары прэзідэнта Насера аб утварэнні адзінай велізарнай дзяржавы арабаў — ад Атлантычнага акіяна аж па Персію? На гэтае пытанне немагчыма адказаць: так або не. Хаця ўсе арабскія народы карыстаюцца адною моваю і маюць адну рэлігію, аднак іх аб'яднанне залежыць таксама ад прычын гаспадарчага і палітычнага характару.

*

Рамадан! Суровы пост ісламу. Ад усходу да заходу сонца забаронена есці, піць, курыць. Ноччу рабі, што хочаш. Затое ўдзень морыць сон. І так цэлы месяц, пачынаючы ад 26 студзеня. Пост уводзіць балаган у гаспадаркі. Рэзка змяншаецца працаздольнасць людзей. Бургіба, прэзідэнт Туніса, вырашыў пакончыць з гэтым. Выкарыстаў традыцыю ісламу, якая ў час «святой вайны» зносіць пост. Аб'явіў ён, што ў наш час «святой вайною» з'яўляецца барацьба за пашырэнне прадукцыйнасці.

Бургібу падтрымоўвае большасць туніскага народа. Таму Рамадан засталіся пасціць наймацней веруючыя асобы. Прытым трэба ведаць, што Туніс з'яўляецца найменш рэлігійнай краінай з усіх арабскіх рэспублік.

Егіпецкія радыёстанцыі ўзнялі шум супроць Бургібы. Абвінавачваюць яго ў здрадзе ісламу.

У гэтым годзе Рамадан набыў вострую палітычную вымову. Напярэдадні посту расстрэлены дзесяць удзельнікаў змовы супроць прэзідэнта Бургібы. Адбываліся суды над другімі змоўшчыкамі. Хто пасціў, той праяўляў тым самым не толькі адданасць веры, але і ідэалам насераўскага арабскага яднання, у імя якога змоўшчыкі хацелі забіць Бургібу, як праціўніка Рамадана. Адзін з вядомых змоўшчыкаў знайшоў прытулак у Алжыры. У сувязі з гэтым наступіў разрыў дыпламатычных зносін паміж Тунісам і Алжырам.

Зрэшты, Бургіба прадбачыў намаганні Насера ўзмацніць свае ўплывы ў Алжыры. Каб пакрыжаваць планы Каіра, гасцінна прыняў свайго часу алжырскі паўстанцкі ўрад. А з моманту ўстанаўлення незалежнасці Алжыра туніскі прэзідэнт рабіў, што мог, каб не дапусціць «насераўшчыны» ў новым алжырскім урадзе. Палітычная перамога Бен Белы з'явілася асабістым паражэннем прэзідэнта Бургібы. Бен Бела не скрываў сваёй вялікай сімпатыі да Насера. І, адначасова, не забываў аб тым, што Бургіба падтрымоўваў яго палітычных праціўнікаў

Некаторыя вынікі следства, праведзенага ў справе змовы супроць Бургібы, насоўваюць здагадкі, што змоўшчыкі дзейнічалі пры актыўнай дапамозе алжырскіх улад.

Урад Марока спрабаваў зменшыць алжыра-туніскі канфлікт. Але, нягледзячы на эфекты дыпламатычных захадаў Марока, асноўная супярэчнасць паміж Тунісам і Алжырам застанецца. Бургіба імкнецца пабудаваць самастойную туніскую дзяржаву, а Бен Бела ў незалежнасці Алжыра бачыць усяго пераходны этап да цеснага аб'яднання арабскіх дзяржаў.

а-ся



На арабскім кірмашы.

**КУР'ЁЗЫ**

# УВАГА, ГОСЦІ!

Кесар Эфіопіі Гайле Селасе запрасіў групу амерыканскіх, французскіх і швейцарскіх турыстаў у свой палац на абед. Пасля гасціны служба сцвердзіла, што не хапае 10 крыштальных кубкаў. Дакладная рэвізія багажоў запрошаных турыстаў дазволіла кубкам вярнуцца ў палац. (вп)




**Станіслаў Ежы ЛЕЦ**

## НЕПРЫЧЭСАНЫЯ ДУМКІ

Праўда ляжыць звычайна пасярэдзіне. Часцей за ўсё без помніка.

*

Прамалінейныя, будзьце асцярожныя на паваротах!

*

Калі людаеды хочуць спазнаць смак навукі, яны адразаюць языкі вучоным.

*

Яго рэлігійнасць мела прагрэсіўнае адценне. Ён згаджаўся, што чалавек паходзіць ад малпы, якая была на Ноевым каўчэгу.

*

Некаторыя думкі прыходзяць у галаву пад вартаю.

*

Адны павінны жыць другі раз ва ўзнагароду, другія — у пакаранне.

### КАБ МАЦНЕЙ СХАПІЦЬ

Частуе адзін дзядзька суседа. Сусед той добры п'яніца быў, але як селі да стала, дык падняў кілішак і зноў паставіў.

Дзядзька яго запрашае:

— Піце, чаго ж вы кілішак паставілі?

А той кажа:

— Ды гэта я, каб мацней схапіць!



— А цяпер вам пушчу камічную сцэнку: як мяне мой бацька хацеў усвядоміць!



У прыёмнай зубнога ўрача

### КАРАСЬ КАРАСЮ

— Эх, і абрыдла мне жыць у гразі, — скардзіўся карась карасю.

— А ты вазьміся на кручок, — параіў той, — і адразу трапіш у смятану!

### ЗАГАВАРЫЎСЯ

Гутарку аб шкоднасці курэння<br>
Ён праводзіў з бляскам і натхненнем.<br>
І, не скончыўшы, сказаў:<br>
— Хвілінкі так на тры<br>
Зробім перакур, мае сябры!

**Іван Шуцько**

### У ПОШУКАХ КРЫТЫКІ

Гогаль не шукаў пахвалы, затое ўважліва прыслухоўваўся да ўсякіх заўваг адносна сваіх твораў, нават да заўваг яўных ганьбавальнікаў. У яго быў знаёмы саноўнік, вельмі далёкі ад літаратуры; ён паважаў Гогаля як чалавека, але не любіў яго твораў. Вось гэтаму саноўніку Гогаль прачытаў дзевяць раздзелаў другога тома «Мёртвых душ».

— Навошта вы гэта робіце? — здзіўляўся адзін з сяброў пісьменніка: — Ён нічога не разумее ў літаратуры і паэзіі!

— Што мне за карысць, — адказаў Гогаль, — чытаць тым, хто захапляецца ўсім, што я напісаў? А гэты саноўнік, слухаючы маё чытанне, адшуквае толькі слабыя месцы і крытыкуе строга і бязлітасна, а часам і вельмі разумна.

## ТРЫ СПРАВЫ РОБІЦЬ

Хацеў хлопец ажаніцца, ды ўсё шукаў працавітай дзяўчыны, каб адразу некалькі спраў рабіла.

Куды ні паедзе, дык дзяўчына ці шые, ці прадзе, ці мые сарочкі, ці замятае хату, а ўсё толькі адну справу робіць.

У сваёй вёсцы не знайшоў сабе па густу. Параілі яму дзяўчыну ў іншай вёсцы.

Узяў ён свата і пайшоў сватацца. Дзяўчына была адна ў хаце і замкнулася, бо мыла галаву.

Калі сват пастукаў у дзверы, яна і крыкнула:

— Пачакайце крыху, бо я шыю, мыю, купаюся.

Хлопец аж падскочыў, так уцешыўся, і засватаў такую працавітую дзяўчыну.

Пасля вяселля ён і пытае:

— Скажы мне, як гэта ты тры справы рабіла?

— Дык я шыю мыла — купалася.

## БУЛЬБА ПА-ШЛЯХЕЦКУ



Вазьміце сярэднюю бульбіну, аблупіце яе і начыніце ёю тлустага рабчыка. Рабчыка (без шыйкі, лапак і крылак) улажыце ў курапатку, а так нарыхтаванай курапаткай начыніце індыка. Індыком начыніце барана, а яшчэ лепей сарну, калі ёсць пад рукамі. Так начыненага барана ці сарну кладзіце ў добра выпасенага вала і пячыце яго цэлага на вольным агні.

Пры пячэнні ўсе аджыўчыя сокі пераходзяць з вала ў сарну, з сарны ў індыка, з індыка ў курапатку, з курапаткі ў рабчыка, а з рабчыка ў бульбу. Пасля гэтага ўсё мяса выкіньце, як бязвартаснае, выміце асцярожна бульбіну і кладзіце яе на талерку, паліваючы маслам з цертай румянай булачкай. На стол падаецца не больш 30—50 бульбін.

Такую смачную і аджыўчую для ашчаднай кухні бульбу з'есць з апетытам і самы пераборлівы ў [illegible] шляхціч.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Ніны Саевіч** з Курашава, Гайнаўскага павета, змяшчаем народную беларускую песню

## ПАСЫЛАЛА БАБА ДЗЕДА

Пасылала баба дзеда ў луг па каліну:<br>
Не наломіш калінонькі,<br>
Далібог, пакіну.<br>
Не наломіш чырвонае, /2 разы<br>
Ей-богу, пакіну.

Пайшоў дзед, пайшоў дзед<br>
У луг па каліну.<br>
А ўжо дзеду вадзічанька /2 разы<br>
Займае па спіну.

Прыпеў:

Ідзі стары, ідзі стары<br>
У луг па каліну.<br>
Не наломіш калінонькі,<br>
Далібог, пакіну.<br>
Не наломіш чырвонае, /2 разы<br>
Ей-богу, пакіну.

А ўжо дзеду вадзічанька<br>
Па пояс займае.<br>
Сядзіць баба на беражку, /2 разы<br>
Далей пасылае.

Прыпеў.

А ўжо дзеду вадзічанька<br>
Па шыю займае.<br>
Сядзіць баба на беражку, /2 разы<br>
Далей пасылае.

Прыпеў.

А ўжо дзеду вадзічанька<br>
У самы рот ільецца.<br>
Сядзіць баба на беражку /2 разы<br>
І з дзеда смяецца.

Дзякуй Богу, дзякуй Богу,<br>
Што няма старога.<br>
Заўтра пайду на рыначак, /2 разы<br>
Куплю маладога.

Села баба на беражку<br>
Ды й загаласіла:<br>
Ой, Божа ж мой, Божа,<br>
Што я нарабіла.<br>
Маладога не купіла, старога ўтапіла.



Пляткары

## КІНАЗДЫМКА

У нашу вёску прыехала кінабрыгада. Ці то спатрэбілася фільмоўцам здымаць вясковыя эпізоды, ці вырашылі яны наблізіць мастацтва да вёскі, хто гэта ведае? Галоўнае, што фільмоўцы прыехалі і спыніліся на нашай вясковай плошчы, бы казачны віцязь на раздарожжы.

У гэты момант наша бабуля Анфіса пераходзіла плошчу, абапіраючыся дрыжачай рукой на палку.

Кінарэжысёр з разбойніцкай барадой, якая адразу выяўляла ў ім артыста, выскачыў з машыны і закрычаў:

— Характэрны тып! Давай бабку ў камеру! Настаўляй апарат!

— У камеру?! — абурылася бабуля. — Ах ты, бессаромны, мяне ў камеру, бы нейкага мачывуса!

Пры гэтых словах бабуля плюнула і пакрочыла хутчэй.

— Пастой, старэнькая, мы цябе толькі схопім у анфас і з профіля! — закрычаў рэжысёр, злажыўшы далоні трубачкай.

— Схапі казла за хвост, пудзіла гарохавае! — параіла бабуля, аддаляючыся.

Дапытлівая вясковая моладзь пачала збірацца каля аўтамабіля.

— Мо' з кірмашом прыехалі? — спытала рэжысёра вастравокая Гануля.

— Вёску здымаць будзем вялікім планам, — адазваўся рэжысёр.

— Госпадзі! — усклікнула Гануля і, звярнуўшыся да сяброўкі, сказала: — Бяжы, Зінка, людзей склікай! Скажы, землямеры прыехалі з вялікім планам, вёску знімаць будуць.

— А куды ж мы падзенемся?! — крыкнула трывожна Зінка, і толькі пяткі яе заблісkалі.

Збянтэжаны рэжысёр нешта хацеў вытлумачыць, але з першых хат пачалі ўжо выскакваць людзі. Хто з палкай, хто з віламі, а іншыя з сякерамі.

— Ды зразумейце, людзі добрыя, мы толькі фатаграфаваць будзем! — крыкнуў рэжысёр. — Вось, напрыклад, вашу карову.

— А скажы, шаноўны, з якой пары гэта карова важнейшая за гаспадара? — адразу пачулася пытанне.

— Чаго тут гутарыць, хай заварочваюць аглоблі, пакуль мы добрыя! — раздалося некалькі галасоў.

Рэжысёр нырнуў у машыну. Аўтамабіль, забурчаўшы па-сабачаму, развярнуўся.

— Бач ты, нахабнікі, захацелася ім вёску знімаць, а яна стаіць не за маёй памяці, — адазвалася бабуля, якая таксама была ў натоўпе, і пагразіла клюшкай услед ад'ехаўшым.

Эх, чытачы сімпатычныя, ёсць яшчэ ў нас вёскі, дзе новае і карыснае гатовы жыхары з віламі сустракаць.

*Дзядзька Лявон*